**ПРАВААБАРОНЦА СЯРГЕЙ ГОЎША**



НАКІРАВАЎ ПАВЕДАМЛЕННЕ Ў КПЧ ААН

СТАР. 2

веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 3 (11) 03.2013

**КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД МОЖА РАЗГЛЯДЗЕЦЬ**

ПЫТАННЕ, ПАСТАЎЛЕНАЕ ПРАВААБАРОНЦАМ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЦА ЗВЯРНУЎСЯ Ў КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД

Праваабаронца Сяргей Гоўша лічыць не абходным ўнясенне зменаў у Працэсуальна-выканаўчы кодэкс РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях, зыходзячы з уласнага вопыта.

Баранавіцкі праваабаронца Сяргей Гоўша 1 сакавіка накіраваў у Канстытуцыйны Суд пісьмовы зварот. На падставе ўласнага вопыта ён прапануе КС прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі і міжнародным прававым нормам палажэнні Працэсульна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (далей ПВКабАП) у пытанні немагчымасці адмены дзяржпошліны, а таксама прапанаваць Палаце прадстаўнікоў разгледзець пытанне аб дапаўненні ПВКаАП з тым, каб дзейным чынам забяспечыць гарантыі судовай абароны правоў і свабод асобы. У сваім лісце грамадскі актывіст паведамляе КС, што пастановай суддзі Васіля Петрыва суда г. Баранавічы ад 21 жніўня 2012 г. ён быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, не пагадзіўшыся з якой 30.08.2012г. накіраваў у суд скаргу і напісаў у суд заяву аб вызваленні яго ад дзяржпошліны ў сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам.

Аднак пастановай суддзі Васіля Петрыва ад 13 верасня 2012 г. Сяргею Гоўшы было адмоўлена ў задавальненні хадайніцтва аб вызваленні яго ад уплаты дзяржаўнай пошліны ў сувязі з тым, што Працэсуальна-выканаўчым кодэксам РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях магчымасць вызвалення ад уплаты дзяржпошліны пры падачы скаргаў на пастановы суда не прадугледжана.

У сваім лісце Сяргей Гоўша падсумоўвае, што ён не змог скарыстацца правам на абскарджанне судовых пастаноў.

Разам з тым, рашэнне па скарзе, на погляд Сяргея Гоўшы, высветліла агульную праблему: наяўнасць ў дзеючым адміністрацыйна-працэсуальным заканадаўстве прабелу, у выніку якога парушаецца канстытуцыйнае права грамадзян на судовую абарону.

Пры гэтым Сяргей Гоўша зыходзіць з наступнага. Ён адзначае, што права на судовую абарону гарантавана арт. 60 Канстытуцыі РБ. А ў арт. 2 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (далей



МПГПП) замацаваны абавязак кожнай дзяржавы-удзельніцы Пакту забяспечыць кожнай асобе, правы і свабоды каторай парушаны, эфектыўны сродак прававой абароны.

Сяргей Гоўша лічыць, што зыходзячы з вышэй прыведзеных палажэнняў Канстытуцыі і ратыфікаванага РБ МПГПП, дзяржава павінна ствараць такія сродкі прававой абароны, якія б гарантавалі эфектыўную абарону парушаных правоў і свабод асобы.

Згодна арт. 130 Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса РБ, суд ці суддзя, зыходзячы з маёмаснага становішча грамадзяніна, мае права поўнасцю ці часткова вызваліць яго ад уплаты судовых выдаткаў. Па тых жа падставах, у адпаведнасці з арт. 134 ГПК, суд ці суддзя ўплату судовых выдаткаў можа адтэрмінаваць ці растэрмінаваць.

Сяргей Гоўша дадае, што і Гаспадарчы працэсуальны кодэкс РБ таксама прадугледжвае магчымасць адтэрміноўкі ці растэрміноўкі ўплаты дзяржаўнай пошліны (арт. 127).

Далей Сяргей Гоўша сцвярджае, што нават у крымінальным працэсе асуджаны можа быць вызвалены ад выплаты працэсуальных выдаткаў, якія ў гэтым выпадку адносяцца на кошт дзяржавы (арт. 163).

Такім чынам, Сяргей Гоўша падсумоўвае, што адміністрацыйна-працэсуальным заканадаўствам, як адзначана ў пастанове суддзі ад 13 верасня 2012 г., такой магчымасці не прадугледжана.

Сяргей Востраўскі

## Пытанне бясплатнага праезду вясковых вучняў на секцыі і гурткі далікатна абмінулі

Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус атрымаў ліст з Брэсцкага аблвыканкама за подпісам намесніка старшыні Леаніда Цупрыка. Раней мы паведамлялі, што Мікалай Чарнавус накіраваў зварот з 81 подпісамі грамадзян вёскі Русіны Баранавіцкага раёна ў Савет Міністраў і Брэсцкі аблвыканкам з тым, каб працягнуць маршрут гарадскога аўтобуса № 1 да вёскі Русіны і зрабіць праезд вясковым вучням на секцыі і гурткі бясплатным.

У адказе дзяржаўнага чыноўніка паведамляецца, што працягнуць маршрут гарадскога аўтобуса № 1 да вёскі Русіны не прадстаўляецца магчымым. А пытанне бясплатнага праезда вясковых вучняў у гарадскія дзяржаўныя ўстановы дадатковай адукацыі і выхавання, намеснік старшыні аблвыканкама дэлікатна абмінуў.

– Гарадскі транспарт не ходзіць у вёску Русіны, нягледзячы на тое, што яна даўно ўвайшла ў рысу горада Баранавічы. Хворым у бальніцу і вясковым дзецям на гурткі ды секцыі прыходзіцца ездзіць на маршрутным таксі і плаціць 5 тыс. рублёў у адзін канец. За месяц атрымоўваюцца вялікія грошы. Гэтае пытанне мы не пакінем без увагі і будзем па-ранейшаму ўздымаць яго перад уладамі розных узроўняў, – паведаміў Мікалай Чарнавус.

Глеб Лушынскі

# Сяргей Гоўша накіраваў паведамленне ў Камітэт па правах чалавека ААН

Праваабаронца Сяргей Гоўша 5 сакавіка 2013 года накіраваў паведамленне ў Камітэт па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (далей КПЧ). У ім паведамляецца, што ён быў адзін з заснавальнікаў грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна", якое Вярхоўны Суд РБ беспадстаўна ліквідаваў 28 кастрычніка 2003г. Палічыўшы гэтае рашэнне незаконным, Сяргей Гоўша, у ліку 10 сябраў "Вясны" звярнуўся ў КПЧ з паведамленнем аб парушэнні Рэспублікай Беларусь яго права на асацыяцыю. Разгледзеўшы гэты зварот, КПЧ прыйшоў да высновы: РБ парушыла права Сяргея Гоўшы (як і іншых сааўтараў паведамлення) на асацыяцыю. Таму КПЧ рэкамендаваў Беларусі перарэгістраваць ГА "Праваабарончы цэнтр "Вясна", а аўтарам паведамлення выплаціць кампенсацыю.



Зыходзячы з меркаванняў КПЧ, Сяргей Гоўша, ў ліку ўсіх сааўтараў паведамлення, ў 2007 і двойчы ў 2009 годзе звяртаўся ў Міністэрства юстыцыі з хадайніцтвам аб аднаўленні рэгістрацыі "Вясны", але безвынікова.

У склаўшыхся ўмовах, праваабаронца Сяргей Гоўша, на падставе арт.35 Закона "Аб міжнародных дамовах РБ", 26 верасня 2009 года звярнуўся ў Міністэрства замежных спраў Беларусі з хадайніцтвам аб садзейнічанні ў аднаўленні яго парушанага права. Менавіта гэтае міністэрства ажыццяўляе кантоль за выкананнем міжнародных пагадненняў. Але ў сваім лісце 20 кастрычніка 2009 года Міністэрства замежных спраў паведаміла, што выкананне Меркаванняў КПЧ знаходзіцца ў кампетэнцыі судовых устаноў краіны.

Улічваючы рэкамендацыю Міністэрства замежных спраў, праваабаронца Сяргей Гоўша звярнуўся спачатку ў суд Маскоўскага раёна, а затым ў Мінскі гарадскі і Вярхоўны Суд з зыскам да Міністэрства фінансаў РБ аб выплаце яму кампенсацыі за маральную шкоду з-за немагчымасці працягваць актыўнае грамадскае жыццё. Аднак усе суды адмовілі грамадскаму актывісту ў разглядзе яго справы, матывуючы тым, што гэтая зыскавая заява не падляжыць разгляду ў судзе, "из-за его неподведомственности".

У сваім паведамленні ў КПЧ праваабаронца Сяргей Гоўша тлумачыць, што ён быў пазбаўлены права на справядлівае судовае разбіральніцтва, а гэта з'яўляецца парушэннем, на яго думку, як беларускага заканадаўства, так і Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Такім чынам, грамадскі актывіст Сяргей Гоўша вычарпаў усе наяўныя ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны ў спробе ажыццявіць сваё права на асацыяцыю, гарантаванае артыкулам 36 Канстытуцыі.

Таму Сяргей Гоўша просіць КПЧ прызнаць яго ахвярай парушэння РБ права на справядлівае судовае разбіральніцтва, прадугледжанае арт.14 (1) Пакта. Ён таксама просіць КПЧ указаць РБ на неабходнасць прыняцця такіх мер, якія былі б дастатковымі для выканання правоў, прызначаных у Міжнародным пакце грамадзянскіх і палітычных правоў.

Сяргей Вострараўскі

## Пікет да 95-х угодкаў БНР забаранілі

Грамадскі актывіст Віктар Сырыца 20 сакавіка атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча. У ім паведамляецца, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне пікета 25 сакавіка 2013 года, прысвечанага 95-м угодкам абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гарвыканкам лічыць, што заяўнік парушыў арт. 5 Закона РБ ад 30.12.1997 № 114-З "Аб масавых мерапрыемствах" і пункт 4 рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы" (у рэдакцыі рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 05.10.2009г. № 2497). Гарвыканкам традыцыйна не паведамляе, што канкрэтна парушыў заяўнік, а прапануе ў выпадку нязгоды з рашэннем звяртацца ў Брэсцкі аблвыканкам ці ў суд Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы.

– Я заключыў дамовы з гарпаліклінікай, ЖКГ, а вось супрацоўнік Баранавіцкага ГАУС маёр Павел Кульгавік адмовіўся заключыць дамову аб ахове грамадскага парадку, як гэта патрабуе закон і рашэнне гарвыканкама. Двойчы я хадзіў у ГАУС, а трэці раз размаўляў з ім па тэлефоне. Але безвынікова. Вось так маё канстытуцыйнае права на свабоду сходаў, мітынгаў, пікетаў (арт.35 Канстытуцыі РБ) у нашай краіне залежыць ад волі і жаданняў маленькага чыноўніка, – адзначыў Віктар Сырыца.

Грамадскі актывіст будзе скардзіцца на незаконныя дзеянні супрацоўніка ГАУС Паўла Кульгавіка.ў вышэйстаячыя органы ўлады і ў суд

Анжаліка Камбалава

# КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД НЕ ВЫКЛЮЧАЕ РАЗГЛЯДУ ПЫТАННЯ, ПАСТАЎЛЕНАГА ПРАВААБАРОНЦАМ

Баранавіцкі праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў 9 сакавіка адказ на свой зварот з Канстытуцыйнага Суда за подпісам першага намесніка начальніка Сакратарыята КС Селядзеўскага В.І. У лісце паведамляецца, што зварот спадара Гоўшы разгледжаны ў Сакратарыяце згодна з Законам "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб".

У сваім лісце Селядзеўскі падрабязна тлумачыць кампетэнцыі Канстытуцыйнага суда і парадак унясення прапаноў на яго разгляд, пералічваючы адпаведныя суб'екты, надзеленыя правам звароту ў КС. Пры гэтым адзначаецца, што "згодна з часткай 8 арт. 22 Кодэкса (аб судаўладкаванні і статусе суддзяў) КС мае права ўносіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, у палаты Нацыянальнага сходу, Савет Міністраў, іншыя дзяржаўныя органы ў адпаведнасці з іх кампетэнцыяй прапановы аб неабходнасці ўнясення ў акты заканадаўства змяненняў і (або) дапаўненняў, прыняцця новых нарматыўных прававых актаў. У выпадку разгляду Канстытуцыйным судом пастаўленага ў звароце пытання на падставе часткі 8 арт. 22 Кодэкса Вам будзе паведамлена аб гэтым".



Нагадваем, што праваабаронца Сяргей Гоўша прасіў КС унесці прапанову аб дапаўненні Працэсуальна-выканаўчага кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях палажэннямі, якія б забяспечылі магчымасць вызвалення ад уплаты дзяржпошліны пры падачы скаргаў на пастановы суда.

– Спадзяюся, што Канстытуцыйны суд разгледзіць мае прапановы, бо менавіта дзяржава павінна ствараць такія ўмовы прававой абароны, якія б гарантавалі эфектыўную абарону парушаных правоў і свабод чалавека, – адзначыў Сяргей Гоўша.

spring96.org

# ТЭЛЕКАНАЛУ "БЕЛСАТ" ЧАРГОВЫ РАЗ АДМОВІЛІ Ў АКРЭДЫТАЦЫІ

У сваім рашэнні МЗС Беларусі спаслалася на тое, што беларускія журналісты ўжо неаднаразова парушалі заканадаўства, калі супрацоўнічалі з тэлеканалам.

Рашэнне аб адмове ў акрэдытацыі перадалі афіцыйнаму прадстаўніку канала ў Беларусі Міхасю Янчуку ўвечары 26 сакавіка.

– Такое рашэнне МЗС было чаканым для "Белсату", бо журналісты тэлеканалу цудоўна ведаюць, у якой краіне яны працуюць, і што ніякай лібералізацыі ад беларускага кіраўніцтва сёння чакаць не прыходзіцца, – адзначыў прэс-службе ГА "БАЖ" Міхась Янчук.

"Белсат", першы незалежны беларускі тэлеканал, пачаў трансляцыю 10 снежня 2007 года, у Сусветны дзень правоў чалавека. Журналісты каналу неаднаразова траплялі пад пераслед беларускіх уладаў у выглядзе папярэджанняў і адміністратыўных арыштаў.

http://baj.by/

ДАКУМЕНТЫ

## Мінпрацы: мінімальныя заробак і пенсія – аптымальныя і падвышацца пакуль не будуць

Мінімальныя заробак і пенсія ў Беларусі з'яўляюцца аптымальнымі для склаўшыхся эканамічных умоў і падвышацца пакуль не будуць. Менавіта такі адказ 1 сакавіка атрымаў баранавіцкі грамадскі актывіст Рыгор Грык за подпісам першага намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь П.Грушніка.

Яшчэ ў студзені 2013 года Рыгор Грык сабраў 141 подпіс грамадзян горада Баранавічы і Баранавіцкага раёна, якія лічаць мінімальны заробак у 1 500 000 і пенсію ў 1 400 000 рублёў недастатковымі для пражывання ў цяперашніх умовах. Таму ў сваёй заяве грамадзяне патрабавалі падвышэння мінімальнага заробка да 3,5 млн., а пенсій да 2,5 млн. рублёў. Гэтую прапанову з подпісамі грамадскі актывіст Рыгор Грык накіраваў у Адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь.

– Намеснік міністра адказвае мне на 3-х лістах, што мінімальны заробак вызначаецца ў суадносінах з сярэднім заробкам за месяц і складае 35 працэнтаў, як і ў краінах з развітай эканомікай. Таксама паведамляецца, што дадатковых крыніц для падвышэння пенсій і мінімальнага заробку ў міністэрства няма. Але ніхто з высокага начальства не гаворыць самае галоўнае: як пражыць на цяперашнюю мізэрную пенсію і зарплату ў 1,5 млн. рублёў пры такіх фантастычных коштах, – адзначае Рыгор Грык.

spring96.org

## Праваабаронца Сяргей Гоўша будзе шукаць праўду ў Вярхоўным судзе

Грамадскі актывіст і праваабаронца Сяргей Гоўша рыхтуе дакументы для звароту ў Вярхоўны суд.

Праваабаронца мае намер абскардзіць рашэнне суддзі Берасцейскага абласнога суда Наталлі Сурмы, якая пакінула ў сіле прысуд Баранавіцкага суда. Згодна з яго рашэннем Сяргею Гоўшы прысудзілі паўтара мільёна рублёў штрафу за тое, што нібыта лаяўся ў акруговай камісіі падчас апошніх выбараў у Палату прадстаўнікоў.

Сяргей Гоўша:

– Сказаць, што адбыўся суд – гэта многа вельмі сказаць. Я лічу, што суд – гэта нармальная законная працэдура. А сёння суда не было – гэта было нейкае судзілішча. Абсалютна абстрактнае. Таму што факты гавораць адно, а суддзя прымае абсалютна другое рашэнне – супрацьлеглае здароваму сэнсу. Цалкам даказана маё алібі. Дыктафонны запіс я з самага пачатку прадставіў у міліцыю. Заказны суд. Заказная справа міліцыі супраць мяне.

Буду звяртацца далей, нейкая маленькая надзея ёсць на Вярхоўны суд.

Берасцейскі Абласны суд разглядаў касацыю паводле рашэння Вярхоўнага суда.

У свой доказ Сяргей Гоўша прадставіў аўдыёзапіс і высновы экспертызы пра сапраўднасць запісу. Лаянкі на ёй не было, што пацвердзілі эксперты-крыміналісты з Мінску.

Вера Антановіч

# АКТЫВІСТЫ САБРАЛІ ПОДПІСЫ ЗА ТЭРМІНОВЫ РАМОНТ ПОМНІКАЎ У ГОНАР ПАЎСТАНЦАЎ 1863 ГОДА

Баранавіцкія грамадскія актывісты сабралі 148 подпісаў за тэрміновы рамонт помнікаў у гонар паўстанцаў 1863 г. і накіравалі іх старшыні Мілавідскага сельскага савета (Баранавіцкі раён) Ірыне Сушчык. У звароце паведамляецца, што ў вельмі дрэнным стане знаходзіцца пляцоўка ля Мілавідскага памятнага знака ў гонар касінераў Кастуся Каліноўскага. Зусім кепскі вонкавы выгляд мае і каталіцкая капліца, у якой вецер моцна пашкодзіў дах і сарваная бляха валяецца на зямлі.



Разбураная пляцоўка ля Мілавідскага памятнага знака ўсталяванага ў 1993 г.

Баранавіцкая грамадскасць просіць Мілавідскі сельсавет адрамантаваць помнікі і добраўпарадкаваць тэрыторыю з нагоды 150-х угодкаў Мілавідскай бітвы.

– Мы не толькі просім, але і самі прымем удзел у добраўпарадкаванні. Як толькі сыдзе снег і падсохне зямля, прадстаўнікі грамадскасці Баранавічаў прыбяруць смецце і пасадзяць кветкі ля помнікаў у гонар касінераў Кастуся Каліноўскага. Мы абавязкова арганізуем талаку па добраўпарадкаванню тэрыторыі ля Мілавідскіх помнікаў у гадавіну такой слаўнай падзеі, – адзначыў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

Вітусь Свабодскі

ДАКУМЕНТЫ

# АШТРАФАВАНЫ ЗА ХУЛІГАНСТВА ПРАВААБАРОНЦА ДАМОГСЯ РАЗГЛЯДУ СВАЁЙ СПРАВЫ Ў КАСАЦЫЙНАЙ ІНСТАНЦЫІ

## На гэта спатрэбілася 5 месяцаў

Баранавіцкі праваабаронца Сяргей Гоўша 14 сакавіка па пошце атрымаў пастанову старшыні Вярхоўнага суда В.А.Сукала, згодна з якой адменена пастанова суддзі Брэсцкага абласнога суда ад 4 кастрычніка 2012г. аб адмове ў разглядзе справы праваабаронцы ў касацыйным парадку нібыта ў сувязі з прапушчанымі тэрмінамі. Пастанова старшыні ВС прадпісвае накіраваць скаргу Гоўшы ў абласны суд для разгляду іншым суддзёй.

Справа датычыць **адміністрацыйнага пераследу Сяргея Гоўшы** ягоны падчас парламенцкіх выбараў, калі пасля выяўлення фальсіфікацыі пратакола акруговай камісіяй Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акругі № 5, дзе ён быў зарэгістраваны як назіральнік, праваабаронца быў абвінавачаны ў брыдкаслоўі і пакараны штрафам у памеры 15 базавых велічынь.

Зразумела, з абвінавачаннем у хуліганстве Сяргей Гоўша не пагадзіўся і накіраваў скаргу ў Брэсцкі абласны суд. Адначасова ў вызначаны законам тэрмін ён звярнуўся з заявай аб вызваленні яго ад аплаты дзяржаўнай пошліны ў сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам. Раней па іншых справах Сяргею Гоўшу неаднаразова суды вызвалялі цалкам ці часткова ад яе аплаты. Аднак на гэты раз баранавіцкі суддзя В.А. Петрый заяву аб вызваленні ад дзяржполіны разглядаць не стаў, а проста вярнуў праваабаронцу ўсе матэрыялы па скарзе і адмовіў у разглядзе справы ў сувязі з няўплатай дзяржпошліны, а пазней – у сувязі з пропускам вызначаных законам тэрмінаў абскарджання.

Брэсцкі абласны суд адмовіўся разглядаць справу па сутнасці і не задаволіў хадайніцтва Сяргея Гоўшы аб узнаўленні тэрміну на абскарджванне.

– Цяпер я вельмі рады, што старшыня Вярхоўнага суда разабраўся па сутнасці ў маёй справе і адмяніў незаконную пастанову суддзі Брэсцкага абласнога суда і абавязаў абласны суд яе разгледзець,– адзначыў Сяргей Гоўша.

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў